**У НУМАРЫ**



# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 15 (841) ГОД XVII БЕЛАСТОК 9 КРАСАВІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.



*Новы Бельск.* *Фота Я. Цялушэцкага.*




# КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў БЕЛЬСКУ

VII справаздачна-выбарная канферэнцыя бельскага аддзела БГКТ адбылася 12 сакавіка г.г. Прысутнічалі 44 дэлегаты, прадстаўляючыя 913 членаў нашай арганізацыі і аб'яднаныя ў 53 гуртках, якія дзейнічаюць у сёлах і мястэчках Бельскага павету, а таксама ў г. Бельску. У працы канферэнцыі прынялі ўдзел: сакратар прапаганды павятовага камітэта ПАРП Р. Матосюк, кіраўнік аддзела ўнутраных спраў прэзідыума ПРН Я. Хілімонюк, прадстаўнік павятовага праўлення ЗСЛ А. Ляшэўскі, прадстаўнікі аддзела асветы і культуры прэзідыума ПРН А. Куна, І. Альшэўскі, С. Трафімюк, старшыня павятовага праўлення Саюза вясковай моладзі Ю. Лявоцюк, член прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ мгр М. Гайдук.

Канферэнцыю адкрыў старшыня бельскага аддзела БГКТ дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску мгр А. Карпюк, вёў працу канферэнцыі намеснік старшыні бельскага аддзела БГКТ, намеснік інспектара аддзела асветы і культуры ППРН у Бельску І. Альшэўскі.

Тав. Р. Матосюк — старшыня павятовага праўлення ТППР уручыў актывісту бельскага аддзела БГКТ Сцяпану Трафімюку Залатую адзнаку ТППР, прызнаную яму за заслугі ў галіне ўмацоўвання польска-савецкай дружбы. М. Гайдук — член прэзідыума ГП БГКТ уручыў найбольш актыўным членам аддзела дыпломы ГП БГКТ.

«У нашым павеце аматарскі мастацкі рух з'яўляецца ўжо традыцыяй, — падкрэсліў старшыня аддзела А. Карпюк у справаздачным дакладзе. — Штогод у вёсках працуе звыш дваццаці самадзейных калектываў з беларускім або беларуска-польскім рэпертуарам. Шкада толькі, што за апошнія гады нашая арганізацыя не здолела вырашыць праблемы недахопу п'ес для самадзейнай сцэны. Старыя ж п'есы не карыстаюцца ўжо папулярнасцю. Нашы актывісты ўласнымі сіламі імкнуцца адаптаваць мастацкія творы для пастаноўкі. Настаўніца з Паўлаў Валянціна Мароз пераклала з польскай мовы і паставіла са сваім калектывам у мінулым годзе «Немцаў» Л. Кручкоўскага, а ў гэтым годзе рыхтуе інсцэнізацыю па «Топтанай зямлі» М. Шулецкай. Валянціна Андраюк з Рыбалаў адаптавала для сцэны свайго самадзейнага калектыву твор «Хто прыйшоў уночы». Нягледзячы на гэтыя цяжкасці, нашыя калектывы на працягу аднаго года даюць каля сотні выступленняў у сваіх і су-

Працяг на стар. 4




Год назад мы ўрачыста адзначалі 15-ую гадавіну нашага Беларускага таварыства і «Нівы».

Годам пазней выйшаў першы нумар нівæўскага дзіцяці — першы нумар «Зоркі». Было гэта 7 красавіка 1957 года, роўна 15 год назад.

Давайце вернемся на тыя 15 год назад і ўспомнім, як усё пачалося.

Ужо першыя нумары «Нівы», першыя пісьмы чытачоў да яе паказалі, што «Нівай» цікавяцца, яе чытаюць не толькі дарослыя, але і дзеці. У школах выкладалася ўжо тады беларуская мова, існавалі школы з беларускай мовай навучання. Але не было па чым вучыцца, не хапала падручнікаў і праграм навучання беларускай мовы, вельмі мала кніжак было ў школьных бібліятэках.

Усё гэта добра разумела рэдакцыя. Амаль ад пачатку «Ніва» ўвяла на сваіх старонках спецыяльныя гутаркі для школ, а для наймалодшых — куточак «Малым сябрам», у якім друкаваліся пісьмы дзяцей да «Нівы», іх творы, а таксама апавяданні і казкі. Але гэта далёка яшчэ не вырашала справы.

У першыя месяцы 1957 года рэдакцыі ўдалося атрымаць дазвол і выгаспадарыць сродкі на выдаванне асобнага, спецыяльнага дадатку для дзяцей. Яшчэ ў студзені 1957 года «Ніва» паведамляла чытачам аб тым, што вядзе старанні, каб атрымаць дазвол друкаваць дадатак для дзяцей. А першы лютаўскі нумар «Нівы» прасіў ужо дзяцей і дарослых прыдумаць для гэтага дадатку назву.

Дзеці вельмі масава адгукнуліся на просьбу рэдакцыі. Пісалі паасобку і цэлымі класамі, абмяркоўвалі розныя назвы, даказвалі, што хочуць такую назву, а не іншую. Вось, напрыклад, вучнёўскае пісьмо, надрукаванае ў лютаўскім нумары «Нівы» ад 1957 года: «Паважаная рэдакцыя! Мы, вучні пачатковай школы ў Грыбаўцах, кожную пятніцу з цікавасцю выглядаем паштара, які прывозіць нам «Ніву». (...) З апошняй «Нівы» мы даведаліся, што рэдакцыя «Нівы» хутка будзе друкаваць дадатак для дзяцей. Гэта нас вельмі абрадавала, і мы спяшаемся ахрысціць яго. У час спрэчак паміж нашымі класамі мы не дайшлі да згоды. Другі і трэці класы жадаюць, каб назваць яго «Конік» — яны думаюць сесці на яго, аб'ехаць вакол свету і аб усім даведацца. Чацверты клас хоча назваць яго «Званок», каб ён будзіў беларускіх дзяцей да пазнавання нашай роднай, прыгожай мовы. Пяты клас прапануе назву «Ракета», каб яна ўсім дзецям ясна асвятляла шлях у жыцці». Пад пісьмом стаіць 25 подпісаў.

І вось, дзякуючы такой актыўнай дапамозе чытачоў, згодна з большасцю іх галасоў, дадатак пачаў называцца «Зорка». Пад такім загалоўкам выйшаў першы нумар і рэдакцыя больш ніколі не прабавала змяняць яго. Так за-

(Працяг на стар. 5)



*З велікодным яйкам шлем нашым чытачам самыя сардэчныя прывітанні.* *«НІВА»*




■ 24 сакавіка прэзідыум ГП разгледзеў наступныя пытанні: а) новую структуру штатных працаўнікоў БГКТ, б) справы далейшага існавання беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы, в) уключэнне БГКТ у конкурс «Беларуская вёска гаспадарная і культурная».

■ 28 сакавіка ў Бельску Падляшскім адбыўся конкурс на беларускую песню. З прывітальным словам да 27-мі ўдзельнікаў і прысутных выступіў старшыня аддзела Аляксей Карпюк. Вяла конкурс вучаніца IV класа беларускага ліцэя А. Рыбак. Сабралася больш 300 гледачоў. У групе салістаў два другія месцы занялі Л. Максімюк з Плёсак і А. Амельянюк з Грэдалёў. У групе дуэтаў найлепшымі былі ліцэісткі О. Самоцік і Л. Рыбак, а таксама В. Паўлючук з Дыдулёў і Н. Хіліманюк з Падбелля. Другое месца заняў дуэт у складзе В. Бартошук і Я. Максымюк з Грэдалёў, а трэцяе месца — Н. Дзенісюк і М. Врублеўская з Агароднікаў. Найлепшым з вакальных калектываў быў бельскі, які складаўся з членаў хору БГКТ. Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі дыпломы і ўзнагароды.

■ 26.III адбыўся таксама конкурс на беларускую песню ў Мілейчыцах. Прысутнічалі сакратар павятовага камітэта ПАРП у Сямяцічах В. Майсюшка і сакратар ПК ЗСЛ Я. Харубін. Журы першае месца прызнала салісту з Вілінава А. Стрэльчуку, II месца — сёстрам З. і М. Манцюк з Мікулічаў, а трэцяе месца — дуэту з Мілейчыцаў (С. Казажэўская і З. Высоцкая). Было 24 удзельнікі конкурсу. Усе атрымалі ўзнагароды.

■ У гэты ж самы дзень, 26 сакавіка правёў конкурс на беларускую песню і гарадскі аддзел у Беластоку. Найлепш выступілі Н. Салавей і Я. Яканюк. Другія месцы прызнаны Б. Младзяноўскаму і С. Костра, а трэцяе дуэту В. Цімашук і З. Гаўрылюк. Было 22 удзельнікі. Яны выступілі пры перапоўненай зале ГП.

■ 26 сакавіка адбыліся справаздачна-выбарныя канферэнцыі ў Гайнаўцы і Саколцы. Справаздачу з іх надрукуем у наступных нумарах «Нівы».

(мх)




# Цёшча, яе дачка і зяць

Гадавала маці дачку, шкадавала яе, песціла, клапацілася так, каб ёй добра жылося. І так было. Дачка стала падрастаць, маляваццa і за хлопцамі аглядацца. Не слухалася разумных матчыных рад і крыўдзіла яе сваімі паводзінамі. Маці пабурчыць, пагневаецца і зноў душу аддае за дачку. Дачка была прыгожая, залётная, прывабная. Спадабалася яна грамадзяніну Зялінскаму, які марыў перш за ўсё аб тым, каб яго жонка была красавіца, каб была прыгажэйшая ад жонак яго калегаў. Зялінскаму не заўсёды падабалася лёгкадумнасць сваёй каханай, але думаў, што ён яе выхавае на добрую жонку.

Дык ажаніўся. І цёшча з імі стала жыць. Маці сцяною стаяла за дачкою. Ва ўсім вінаваты быў муж, ва ўсім мела рацыю дачка. Муж усё рабіў, каб утаймаваць сваю жонку. У іх было ўжо двое дзяцей, якіх любіў ён страшэнна. Цёшча таксама любіла дзяцей. Апекавалася ўнукамі лепей за матку. Сямейныя адносіны аднак пагоршыліся, і муж кінуў гэту хату і пасяліўся ў Гданьску. Пачаў намагацца, каб забраць дзяцей да сябе, бо ведаў, што не будзь бабкі — матка іх будзе крыўдзіць.

Час ішоў. Зялінскія развяліся. Зялінская вымушана была працаваць. Зрабіла вялікае манка, і забралі яе ў турму. Зялінскі не перастаў рабіць захады, каб забраць да сябе дзяцей. Але цёшча праўдзівыя і няпраўдзівыя аргументы прыводзіла падчас судовых працэсаў і заўсёды выйгрывала.

Бабка атрымоўвала рэнту. Але гэтага мала было на выхаванне дзяцей. Мусіла яшчэ цяжка працаваць. Пакідала маленькіх адных у хаце. Даробляла, каб дзецям купіць, што трэба. Была іх чулаю, сардэчнаю маткаю. Чакала дачкі з турмы. І дзеці чакалі матку. Туфлі маці ўрачыста перастаўлялі з месца на месца.

Аднойчы вярнуліся дзеці з прадшколля і ўбачылі маці. Радасці не было канца ў хаце. Але нядоўга. Маці стала свавольнічаць, стала туляць ва ўсю. Урэшце без ведама маці, з такім мужчынам, як сама, выехала з Беластока і не давала знаку жыцця. Праз нейкі час нехта са знаёмых паведаміў бабцы, што бачыў яе дачку ў Шчэціне ў акружэнні нейкіх п'яніц.

Бабка зразумела сваю памылку. Дабівала яе тое, што няслушна яна абвінавачвала зяця, што няслушна бараніла дачку. І ўрэшце паведаміла зяцю аб цяжкай сітуацыі дзяцей. Забраў ён сваіх дзяцей. Прапанаваў прыехаць жыць да яго і цёшчы.

*Міхась Хмялеўскі*



*Высядзела.* *Фота Цаф — Р. Сянько.*

НА САКОЛЬШЧЫНЕ

## АБСЛУГА ГАСПАДАРА

Значна павялічылася выкарыстанне мінеральных угнаенняў у Сакольскім павеце. Сведчыць аб гэтым хаця б і тое, што ў 1965/66 гаспадарчым годзе прададзена іх тут 9.386 тон, а ў 1970/71 аж 21.285 тон. Адной з прычын гэтага была лепшая якасць тавару. Веды, атрыманыя ў часе сельскагаспадарчых курсаў, а перш за ўсё практыка, узбудзілі сярод гаспадароў большы давер да мінеральных угнаенняў. Але не толькі гэта.

Выкананне заданняў стала магчымым дзякуючы стварэнню новых пунктаў продажу, а таксама дзякуючы непасрэднай дастаўцы мінеральных угнаенняў да гаспадароў. У мінулым годзе ў Сакольскім павеце створаны дадаткова чатыры пункты продажу, дзе прададзена 2.452 тоны ўгнаенняў. Непасрэдна да сяліб гаспадароў дастаўлена 781 тона ўгнаенняў, а дзякуючы супрацоўніцтву з сельгасгурткамі, якія сваім транспартам забіралі тавар непасрэдна з вагонаў, прададзена больш 5 тыс. тон мінеральных угнаенняў.

Сёлета прадбачваецца арганізаваць новыя пункты продажу мінеральных угнаенняў на тэрыторыі ГРН Разадранка, Старая Камянка, Бомбля, Залесе і іншых. Гэтыя пункты будуць абслугоўваць прадстаўнікі гмінных спулдзельняў. Надалей у Сакольскім павеце будзе распаўсюджвацца продаж угнаенняў праз тарговых агентаў спулдзельні, якія будуць адначасова ўладкоўваць на месцы справы крэдыту. Па загаду гаспадароў спулдзельня будзе рабіць такія паслугі, як нагрузка, разгрузка, а таксама насыпанне ў мяшкі ўгнаенняў.

Паляпшаецца абслуга гаспадароў, якія купляюць кармавыя мяшанкі. Пункты продажу адкрыты ў Бабіках, Бомблі, Белавусах, Праслаўцы, Немчыне і Гэлме, а абслугоўваюць іх прадстаўнікі спулдзельні. Гаспадары, якія займаюцца птушкаводствам і прадаюць яйкі, могуць тут купіць корм для хатняй птушкі (3 кг корму за 1 кг яек).

Многа зроблена на пунктах скупкі жывёлы. За 3.600 тыс. зл. у мінулым годзе праведзена іх мадэрнізацыя, зроблены або адрамантаваны пляцы і даязныя дарогі, разгрузачныя рампы і т.п. Гмінная спулдзельня ў Саколцы арганізавала выплату на пунктах скупкі ў Бабіках, Саколцы і Бомблі. Арганізаваны таксама буфеты. У гэтым годзе распачнецца пабудова новых пунктаў скупкі ў Шудзялаве і Бомблі, а пункт скупкі ў Кузніцы будзе разбудаваны і атрымае новае абсталяванне.

Да канца 1975 года будуць пабудаваны новыя пункты скупкі жывёлы ў Бабіках і Падкамянцы. (ак)




## ВАЛАЧОБНАЯ

*Тонка-тонка канопэлька,*
*Давно віно зелено!*
*Ешчэ тонша панна Манька,*
*Давно віно зелено!*
*Хусты мыла, бель беліла,*
*Давно віно зелено!*
*Злоты персцень ізгубіла,*
*Давно віно зелено!*
*Злоты персцень ізгубіла,*
*Давно віно зелено!*
*Шчука-рыба ухапіла,*
*Давно віно зелено!*
*Ах вы, хлопцы-рыбалоўцы,*
*Давно віно зелено!*
*Закідайце шоўкоў невад,*
*Давно віно зелено!*
*Шоўкоў невад па той бэрэг,*
*Давно віно зелено!*
*І злапайце шчуку-рыбу,*
*Давно віно зелено!*
*І злапалі, расплаталі,*
*Давно віно зелено!*
*Злоты персцень адабралі,*
*Давно віно зелено!*
*Злоты персцень адабралі,*
*Давно віно зелено!*
*Той паненцы даровалі,*
*Давно віно зелено!*
*Просім панны надвор выйсці,*
*Давно віно зелено!*
*Надвор выйсці, дар вынесці,*
*Давно віно зелено!*
*Копу яек на поўмісок,*
*Давно віно зелено!*
*Коўбасэю акружыці,*
*Давно віно зелено!*
*Коўбасэю акружыці,*
*Давно віно зелено!*
*Белым сэром завэршыці,*
*Давно віно зелено!*



Ад Марыі Гайдук 1908 года нараджэння, хутар Полымя, вёска Тарнопаль, Гайнаўскага павету, запісаў 25 лютага 1972 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук.

вішча» (Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мінск 1969, с. 25).

Спрачаючыся з Мальдзісам адносна ўжытага ім слова «нацыянальны» ў адносінах да характару «Энеіды», мусім згадзіцца з ім, калі ён гаворыць аб нацыянальных рысах у характары Тараса. Сапраўды, першы раз беларускі селянін паказаны тут у натуральным, а не карыкатуральным выглядзе. Паказаны такім, як ёсць — без пачварнай дэфармацыі і без ідэалізацыі. Коласаўскія героі з «Новай зямлі» — Антось і Міхась, з крыві і косці беларусы, у нашым перакананні вядуць свой літаратурны радавод з «Тараса на Парнасе». Не значыць гэта, зразумела, што Колас, пішучы сваю паэму, браў узор з «Тараса на Парнасе». Меў ён крыніцы больш аўтарытэтныя. Гэтымі крыніцамі была ўласная сям'я пісьменніка, беларуская сялянская рэчаіснасць з пералому XIX і XX ст., але і літаратурных прычын нельга недаацэньваць. Часам бывае так, што нават сам пісьменнік не ўмее акрэсліць пасрэднага або непасрэднага штуршка, які быў прычынай задумы ці канцэпцыі твора.

Зрэшты, тэма палясоўшчыкаў, зразумела, паказаных у зусім іншым аспекце, чым у «Тарасе на Парнасе», гэта тэма вельмі частая ў беларускай літаратуры. Хопіць глянуць на творчасць Лучыны і многіх, многіх пісьменнікаў перыяду «Нашай Нівы». Хто ведае, ці да развіцця гэтай лініі ў нейкай ступені не прычынілася паэма «Тарас на Парнасе».

Пачатак на стар. 1




прапанавалі чытачы, да гэтага прызвычаіліся яны і так у далейшым пачалі яны называць нават рэдактара «Зоркі». «Дарагая «Зорка»! — пісалі і па сённяшні дзень пішуць дзеці. — Прыедзь да нас у госці. Будзем табе вельмі рады».

І «Зорка», г.зн. адзіны яе рэдактар, ехала, сустракалася, навязвала з дзецьмі і выхаваўцамі сяброўскія кантакты.

Яшчэ цяпер успамінаюць дарослыя, а 15 год назад — малыя чытачы з Ляшукоў, як да іх прыязджала «Зорка».

«Гэта была асабліва цёплая сустрэча з чытачамі, — успамінала пазней першы рэдактар «Зоркі» Вера Леўчук. — У школе не спадзяваліся майго прыезду. Час быў ужо пазнаваты. У школе вучняў ужо не было. Але праз некалькі хвілін амаль усе вучні былі ўжо ў зборы. Мяне гэта вельмі здзівіла. Я ведала, што вёска шырока раскінута, і дзеці так хутка сабрацца не могуць. Аказваецца, у гарцэраў школы была распрацавана спецыяльная сігналізацыйная сістэма. Кожны меў канкрэтнае заданне, і як толькі да яго даходзіў сігнал, перадаваны эстафетай, перадаваў яго далей, а сам бег у школу. Дык вось гэтая сістэма была прыведзена ў рух на вестку аб прыездзе «Зоркі». На развітанне дзеці ўручылі «Зорцы» цудоўны букет палявых кветак і правялі мяне далёка за вёску».

Гэта быў час, калі журналісты ў камандзіроўку яшчэ не ездзілі, як цяпер, спецыяльнымі аўтамашынамі, ды і аўтобусныя лініі ляжалі на Беласточчыне рэдкай сеткай. Тады — «хадзілі ў тэрэн». Даязджалі поездам ці аўтобусам да бліжэйшага прыпынку, а потым ішлі ў вёску за 5 ці нават за 8—10 км, начавалі там, пераходзілі ў наступную вёску і гэтак далей.

Усе гады свайго існавання «Зорка», як і «Ніва», старалася прыслухоўвацца да патрэб беларускіх школ, настаўнікаў, утрымлівала з імі частыя кантакты. Друкавала матэрыялы, якія маглі быць патрэбнымі настаўнікам і вучням на ўроках ці ў пазалекцыйнай працы.

Здаралася, што вучні ці настаўнікі прасілі рэдакцыю дапамагчы ім падшукаць адпаведны матэрыял, каб адзначыць нейкую гадавіну, падрыхтаваць тэматычна звязаную з гэтым песню ці верш.

Не было падручнікаў, дык «Зорка» друкавала творы класікаў беларускай літаратуры. А як толькі падручнікі былі падрыхтаваны ў выдавецтве да друку, але да вучняў яны маглі трапіць яшчэ толькі праз год, «Зорка» друкавала іх на сваіх старонках згодна са школьнай праграмай, каб хоць неяк аблегчыць гэты дакучлівы недахоп кніжак у школе. Чытачы прызвычаіліся карыстацца «Зоркай» на ўроках беларускай мовы, і гэтая добрая звычка засталася ў многіх школах і па сённяшні дзень. І ў гэтым, напэўна, вялікая заслуга настаўнікаў і выхавацеляў. Гэта яны, настаўнікі, дапамагалі нам, а мы ім, прывіваць у дзяцей любоў да роднай мовы, ахвоту да пазнавання роднай літаратуры, мы разам стараліся фармаваць ад малога ўзросту чалавека яго грамадскую і нацыянальную свядомасць.

Дзякуючы супрацоўніцтву з рознымі арганізацыямі, «Зорка» ўключалася ў гарцэрскія акцыі, заахвочвала і падтрымлівала дзяцей у іх цікавых і карысных задумах, вучыла паважаць людзей і дапамагаць старэйшым, любіць прыроду, збіраць фальклор і прадметы нацыянальнай культуры, ствараць школьныя куткі-музеі, паказвала лепшыя прыклады грамадскай актыўнасці вучняў.

У тое, як цяпер выглядае і аб чым піша «Зорка», значны ўклад настаўнікаў беларускай мовы. Гэта яны ў прыватных размовах, на сустрэчах у Беларускім таварыстве ці на настаўніцкіх канферэнцыях падтрымлівалі, хвалілі або крытыкавалі нашыя прапановы, артыкулы ці рубрыкі, прасілі больш пісаць аб тым ці іншым, падказвалі, на што добра было б звярнуць асаблівую ўвагу.

І мы стараліся рабіць так, каб настаўнікі маглі выкарыстоўваць матэрыял «Зоркі» ў сваёй штодзённай працы, каб іх вучні знаходзілі ў «Зорцы» цікавы і выхаваўчы змест.

Як нам удавалася гэта рабіць, ці спаўняем мы сваю ролю, аб гэтым найлепш ведаюць яны —настаўнікі, а таксама маладое пакаленне, былыя чытачы і карэспандэнты «Зоркі».

Мне, як цяперашняму рэдактару «Зоркі», вельмі хацелася б атрымаць хоць некалькі слоў ад настаўнікаў, супрацоўнікаў «Зоркі», асабіста пачуць заўвагі і прапановы.

Хацелася б вельмі таксама, каб адгукнуліся першыя карэспандэнты «Зоркі». Многія з іх пісалі вершы. Цікава, як склалася іх жыццё, ці прабавалі пісаць у старэйшым узросце. Аднаго з іх ведаем. Янка Цялушэцкі з Новага Ляўкова быў ад заснавання «Зоркі» яе карэспандэнтам. У адным са сваіх пісем Янка паведамляў, што ён, разам са сваім сябрам Юркам Бельскім, закончылі 7-ы клас на 5 і 4. Цяпер ён — журналіст «Нівы». Цікава было б ведаць, ці чытаюць нас цяпер былыя карэспандэнты «Зоркі» Генрых Берніковіч з Седліска, Коля Цімашук з Войшак, Марыся Алесюк з Парцава, Валодзя Галка са Шчытоў, Марыся Герасімюк з Навасадаў, Алесь Сегень з Трывежы, Оля Панько з Трасцянкі, Вечаслаў Цімашук з Будаў, Пеця Іванюк з Плёскаў і шмат, шмат іншых. Напэўна, многія з былых карэспандэнтаў жывуць, а некаторыя з іх настаўнічаюць у сваіх родных мясцінах, маюць сваіх дзяцей, якія таксама вывучаюць беларускую мову і пішуць да «Зоркі». Адгукніцеся...

*Яніна Чэрнякевіч*

# ТРЫБУНА чытачоў

## СТАРШЫНЯ, ЗМЯНІЦЕСЯ!

У нас, у Трасцянцы (Гайнаўскі павет), існуе КГВ. Працуе нядрэнна. Шмат дапамогі атрымліваем мы ад мясцовых настаўнікаў. Толькі сельгасгурток на чале з былым прэзасам Янам Сцепанюком, а цяперашнім старшынёй ГРН, ставіцца да нас непрыхільна. Перад святам жанчын сабраліся мы і хацелі, каб Старшыня пусціў нас у залу пасяджэнняў ГРН. Але ён спецыяльна загадаў сторажу, каб той не адамкнуў будынка. Хадзілі мы па вёсцы і шукалі Старшыню. Знайшлі. Было пасяджэнне праўлення сельгасгуртка. Але ён не згадзіўся пусціць нас у памяшканне рады, пачаў нас дражніць і абазваў брыдкімі словамі. З гэтым мы пайшлі. Жанчыны ўзнялі шум. Кажуць, калі наша арганізацыя нічога не вартая, дык не трэба збірацца і працаваць у ёй. Але загадчык школы да гэтага не дапусціў, пазволіў нам сабрацца ў школе. 8 сакавіка таксама сабраліся мы ў школе. Быў скромны прыём, падарункі жанчынам — членам КГВ.

У сельгасгуртку змянілася праўленне, дык хацелі б мы з новым праўленнем лепш супрацоўнічаць, чым дагэтуль. І хацелі б мы, каб нейкія словы падзейнічалі на нашага Старшыню.

*Члены КГВ з Трасцянкі*

## ПАРНАСік
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### МАЯ БЕЛАСТОЧЧЫНА

Беласточчына, зямля радзімая
І прыгожая, як дзяўчыны.
Такой як ты, любімая,
Не знайду ў свеце краіны.

Ты цешыш усіх сваёй красою
У кожны года час
Тады, як ўстанем мы з расою,
І ў позні вечаровы час.

Надыходзяць дні вясны,
Буйна ўзыходзіць збожжа.
Прыляцяць да нас буслы,
Ах! Як тут вясной прыгожа!

А як прыйдзе летні час,
Пахнеш хлебам і ясьмінам,
Кожны цешыцца з нас
Несмяртэльнай той краінай.

Цудная зямля асенняю парой
Прыбрана каляровымі лісткамі.
А лясы, поўныя грыбоў,
Вабяць нас ядловымі кустамі.

А якая ж ты прыгожая зімой!
Укрыта ў белай пярыне;
Цяпер тут такі спакой,
Як у ціхай соннай краіне.

Беласточчына! Маці радзімая!
Ты мой родны кут!
Цяпер я ведаю, любімая,
Маё месца толькі тут.

*Галіна Верамеюк — вуч. I ц кл. беларускага ліцэя ў Бельску Падляшск.*




*Дарагое Сэрцайка!*

Я жыву на вёсцы і працую на гаспадарцы. Мне амаль 18 год. І вось што здарылася. Пару месяцаў таму назад пазнаёмілася я з Андрэем, якому 24 гады. Ён прыгожы і вельмі прыстойны хлапец. Спадабаўся мне, а таксама і маім бацькам. Ён вучыцца ў вышэйшай школе на апошнім курсе. Неўзабаве стане інжынерам. Ад'язджаючы, Андрэй гаварыў мне і маім бацькам, што калі скончыць школу, будзе прыязджаць часцей і ажэніцца са мной. Бацькі мае адкрыта яму гаварылі, каб ён глянуў на тое, што я закончыла толькі пачатковую школу, а ён мае вышэйшую. Аднак ён адказаў, што для яго гэта няважна, бо ён пастанавіў ажаніцца з вясковай дзяўчынай.

Але цяпер Андрэй да мяне не прыязджае, бо мае многа заняткаў, так ён гаварыў.

Парай, Сэрцайка, што мне рабіць. Ці, калі вернецца Андрэй, выйсці за яго замуж, ці ўвогуле не дурыць сабе ім галавы. Баюся, што, калі выйду за яго замуж, могуць быць у нас непаразуменні. Парай, ці вернецца Андрэй да мяне, ці варта чакаць і выходзіць за яго замуж? За параду буду табе вельмі ўдзячна.

*Эля з Гайнаўшчыны*

Эля! Здаецца мне, што зарана яшчэ гаварыць аб замужастве, бо Андрэй яшчэ вучыцца, а табе не споўнілася нават 18 год. Але раю табе глянуць на гэтую справу больш скептычна. Бо не падабаецца мне, напрыклад, што Андрэй сказаў табе «ён пастанавіў ажаніцца з вясковай дзяўчынай». Ці гэта мода? Маем тут права думаць усяляк. Інакш жа ж выглядала б, калі б Андрэй сказаў, што хоча з табой ажаніцца, бо пакахаў цябе (а не таму, што абавязкова мусіць быць вясковая дзяўчына). На жаль, непаразуменні з прычыны, калі адзін з супругаў адукаваны, другі — не, бываюць, але не мусяць быць. Гэта залежыць ад іх саміх — ці яны пажаніліся з вялікімі пачуццямі, ці па іншай прычыне. Што датычыць справы прыезду Андрэя да цябе, таксама ўсяляк можна думаць: або заняткі, або што іншае. На маю думку, дык ты, Эля, не заглыбляйся замнога ў гэтую справу. Пачакай, пабачыш, што будзе далей. Ты яшчэ маладая і не маеш патрэбы спяшыць. Час усё высніць, а домысламі няма патрэбы сушыць галавы.

Жадаю ўсяго найлепшага!
*Сэрцайка*

## КАГО ВІНАВАЦІЦЬ?

Час ад часу на нашых вёсках можна яшчэ ўбачыць жабруючых цыганоў. Гэта бывае рэдка, аднак бывае. 12 сакавіка г.г. у Махнатае аднекуль прыбылі аж чатыры цыганкі. Яны хутка разышліся па хатах за данінай. Таксама вельмі хутка і «сплылі» з вёскі. Чаму? Хіба каментарыі лішнія. У такім выпадку, каго тут Вініць, ці цыганоў, якія ўсё ж такі не адвучыліся яшчэ жабраваць, хаця ім вельмі многа ўвагі прысвячае дзяржава, ці саміх сялян, якія таксама яшчэ не адвучыліся даваць?

*Алеся*

## ДЗЕ ЯКАЯ МОДА

У многіх вёсках пайшла мода на тэлевізары. Купляюць іх масава. У Дубічах Царкоўных тэлевізараў 23, у Тафілаўцах — 14, многа ў Грабаўцы.

Але ёсць таксама вёскі, дзе сяляне тэлевізараў не купляюць: вёскі Тапаркі, Істок, Карыціска. Тут у хатах тэлевізараў няма. Тут купляюць сельскагаспадарчыя машыны: касілкі, сеўнікі, нават трактар. Тут кажуць: навошта мне тэлевізар — людзі не будуць вылазіць з хаты. Як сам захачу паглядзець — ёсць тэлевізар у святліцы.

Кожны глядзіць па-свойму.

*П. Дубовіч*

## САМАГОНШЧЫКІ

15 сакавіка г.г. у выніку ўзмоцненага дзеяння па ліквідацыі самагонаварэння КП МО ў Гайнаўцы дабілася наступных вынікаў:

1) У Яна Шыманюка, с. Валерыяна, 64 гады, селяніна (6 га), пражываючага на хутары Венцкі, знойдзена 5 літраў самагонкі і апаратуру да прадукцыі яе;

2) у Валянціны Варанецкай, д. Канстанціна, 36 год, удавы (на ўтрыманні 3 дзяцей), пражываючай у Бабяй Гары, знойдзена 3 літры самагонкі і 50 літраў брагі;

3) у Аляксандра Зубрыцкага, с. Хведара, 41 год, пражываючага ў Бабяй Гары, знойдзена 1 літр самагонкі і 40 літраў брагі;

4) у Анны Мацкевіч, д. Канстанціна, 47 год, незамужняй сялянкі (8 га), пражываючай у Семяноўцы, знойдзена 3/4 літра спірту;

5) у Генавефы Манькоўскай, д. Момута, 48 год (нідзе не працуе), пражываючай у Навасадах, знойдзена 1/2 літра самагонкі.

## МЁРТВАЯ СВЯТЛІЦА

У вёсцы Гаркавічы (Сакольскі павет) ужо 16 год існуе святліца. Але ў ёй няма светліцовага і не адбываюцца светліцовыя заняткі. Служыць яна толькі для сходаў і танцаў.

Не можна сказаць, што мясцовыя ўлады зусім не цікавяцца святліцай. Аддзел культуры ў Саколцы купіў столікі і крэслы (ужо паламаны). Прэзідыум ГРН у Бабіках прызначыў грошы на дах і печы. Шмат грошай пайшло на святліцу. Патрэбны аднак тут светліцовы (хоць на паўштату) і тэлевізар. Варта знайсці на гэта грошы, каб не была святліца толькі з назвы. Мясцовая моладзь таксама павінна больш клапаціцца аб сваёй святліцы. Будынак някепскі і, калі ўлажыць у яго крыху грамадскай працы, можна давесці яго да поўнага парадку.

А. С.

## ЯК ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ КРАМЫ

Каб купіць у нас гузік, іголку ці нейкую нітку, трэба ісці ў Трасцянку, а калі там няма гэтага тавару, дык у Цялушкі (каля 10 км), а то і ў Беласток (аўтобусам). Такія выпадкі здараюцца ў вясковых крамах, размешчаных на тэрыторыі ГРН Трасцянка, на якой дзейнічае 5 новых крамаў (ГС Нарва).

Вядома, спажывецкія гаспадарча-прамысловыя тавары дастаўляе сюды непасрэдна ПЗГС з Гайнаўкі. Прадаўшчыца піша толькі заказ. А каб атрымаць гузікі, іголкі і ніткі, дык прадаўшчыца павінна ехаць сама ў Бельск у міжпавятовую гуртоўню. А ёй не хочацца ехаць, бо гэта дробны тавар з грашовымі цэнамі. Ну, дык вясковым жанчынам трэба за гузікам ехаць у горад, траціць дзень і замест грашоў — залатоўкі.

Вельмі мяне цікавіць, што аб тэтым думае праўленне ГС. Яно ж непасрэдна адказвае за забеспячэнне сваіх крамаў. І ў іх павінны быць не толькі гузікі, але і такія тавары, як гумовыя боты, ватоўкі і іншая рабочая вопратка. А гэтага тавару ў міжпавятовай гуртоўні вельмі многа. Трэба толькі паклапаціцца, і ён знойдзецца ў вясковых крамах. Будуць большыя тавараабароты, і сяляне будуць задаволены.

М. Л.
*Гайнаўскі павет*

---

цывільную форму або пад выглядам савецкіх ваеннапалонных. Будзьце асцярожныя. Паўлаў».

Няўжо Пауль і Магда таксама правакатары? Не верыцца. Трымаюцца вельмі проста. Але чаму Пауль так не падабаецца Гардаму? І Ольга паўтарае: «Не веру, не веру».

Выклікаў Метэка. Былы целаахоўнік Ольгі хадзіў у нас у сувязных. Толькі раніцай прыйшоў ад Гразы.

...Пауль і Магда ўвесь дзень прасядзелі ў зямлянцы, якую мы ім адвялі. Вечарам я запрасіў іх у сваю зямлянку павячэраць. Метэк, як было дамоўлена, толькі і чакаў гэтай мінуты. Залез пад нары Пауля, затаіўся. Вярнуліся госці падпіўшыя. Тут жа заснулі. Метэк таксама задрамаў. Прачнуўся ад сярдзітых галасоў. Магда шэптам распякала Пауля. Той адказваў... па-польску...

Раніцай наш повар паклікаў гасцей на снеданне. Метэк кінуўся да мяне. Мы ўзялі іх у час снедання, сытых, калі яны паверылі ўжо ў сваю шчаслівую зорку. Прыбег Гардый:

— Аддай іх нам, капітан Міхайлаў. У мяне на правакатараў нюх. Люблю з імі размаўляць.

Спачатку «нашы госці» абураліся арыштам, паўтаралі свае адказы. Першай загаварыла Магда. Так, агенты гестапа. На вочных стаўках грызліся, быццам саранча ў шклянцы, і, усё яшчэ на штосьці спадзеючыся, тапілі адзін аднаго. Пауль сапраўды быў і ў Бухенвальдзе, і ў Асвенціме, але не зняволеным, а наглядчыкам, потым начальнікам аддзела. І па сумяшчэнню — падсадным шпікам, у польскім блоку. Пад Данцыгам калісьці вучыўся ў польскай школе, добра ведаў мову. Збітага, яго падсаджвалі на тыдзень у блок, да навічкоў, якія не вельмі разбіраліся ў тонкасцях лагернага жыцця. К канцу тыдня з польскага барака ў бункер пераводзілі ўсіх, каго заносіў у свой спіс Пауль. Адводзілі і яго ў той жа бункер, камеру — пакой. Пауль лічыў за лепшае жыць побач са сваімі ахвярамі.

Магду Пауль сустрэў у лагерным публічным доме. Яна таксама станавілася падсадным шпікам у жаночым бараку. Апрацоўваў Магду той жа Пауль. Аднойчы паляк, які пабываў у бункеры і цудам вырваўся адтуль, пазнаў Пауля ў бараку і паспеў паведаміць аб гэтым новай партыі зняволеных — удзельнікам Варшаўскага паўстання. У першую ж ноч Пауля звязалі, збілі. Раніцай яго знайшлі паўзадушаным. Выратаваў жалезны арганізм. Пасля гэтага выпадку начальства вырашыла выкарыстаць Пауля з яго напарніцай на новай рабоце.

Мы судзілі іх імем польскага і савецкага народаў. Мне першаму давялося аб'явіць прыгавор на рускай мове. Гардый прачытаў на польскай. Рыжы па даручэнню двух атрадаў аб'явіў:

— Цум тод!

Пауль сам выкапаў яму. Сабе і Магдзе. Паставілі іх да дзвюх соснаў. Магда ў апошнюю мінуту абхапіла галаву рукамі і куля прабіла «абручальны» пярсцёнак.

*(Працяг будзе).*

## наша ПОШТА

*«Мікалай Мартынюк, Старое Беразова.* У вашай справе параімся з юрыстам і дамо пісьмовы адказ.

*«Чытач».* Вершаў ананімных не друкуем.

*«Тамарка з Карыціск».* Інфармацыя добрая, але ананімная, таму не можам яе змясціць.

ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ"!

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Język zwierząt" (radz.), 11—12. „Cena strachu" (franc.), 13—14. „Perła w koronie" (polski), 15—16.

**Нараўка**

„Cudowna lampa Aladyna" (franc.), „Gott mit uns" (jugosł.), 12—16.

**Нарва**

„Motodrama" (polski), „Pogoń za Adamem" (polski), 12—16.

**Чыжы**

„Pierścień księżnej Anny" (polski), „Unkas — ostatni Mohikanin" (rumuński), 12—16.

**Дубічы Царкоўныя**

„Prom" (jugosł.), „Poludnik zero" (polski), 12—16.

**Арэшкава**

„Na torze czeka morderca" (czeski), „Przeciw Wranglowi" (rumuński), 15—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Nad jeziorem" (radz.), 12—16.

**Орля**

„Kłopotliwy gość" (polski), „Timo Rinnelt porwany" (NRD), 12—16.

**Райск**

„Rezydent wywiadu" (franc.), „Tagebuch" (polski), 12—16.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Między wrześniem a majem" (polski), 11—12. „Tylko umarły odpowie" (polski), 13—14. „Przystań" (polski), 15—16.

**Шудзялава**

„Los Golfos" (hiszpański), „Niezawodni przyjaciele" (rumuński), 12—16.

**Янаў**

„I znów skaczę przez kałużę" (czeski), 12—16.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Wiryneja" (radz.), 11—12. „Człowiek z M-3" (polski), 13—14. „Manewry Dniepr" (radz.), 15—16.

**Мельнік**

„Grawitacja" (jugosł.), 11—12. „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" 13—14. „Siedem dziewcząt kapitana Zbrujewa" (radz.), 15—16.

**Мілейчыцы**

„Jesienny dzień" (wietnamski), 11—12. „Kto śpiewa nie grzeszy" (jugosł.), 13—14. „Morderca w domu" (węgierski), 15—16.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Topkapi" (USA), „Polowanie na mężczyznę" (franc.), 12—16

**Новы Двор**

„Czerwony namiot" (radz.), 12—16.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7523 T-3

